Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 6(42) 9 -- 15 лютага 1996 года ЦАНА 1000 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Навіны рэгіёна

## Вертыкаль на праверцы

***МАЛАДЗЕЧНА.** Днямі тут прайшла комплексная праверка мясцовага гарвыканкома. "Рэвізію" праводзіла камісія Кабінета Міністраў.*

Па агульных сведчаннях, сур'ёзных парушэнняў не знойдзена, хаця выніковая даведка і ўтрымлівае пэўныя заўвагі. Тым не менш, мінчане выказалі некаторыя прапановы па ўдасканаленні работы выканкома. Работнікі ніжняй галіны вертыкалі на іх падставе распрацавалі меры па ўхіленні недахопаў.

А вось камітэт па фізічнай культуры і спорце гарвыканкома маладзечанцы "пераўтварылі"... у такі самы, толькі дадалі "і турызму". Не аднаму ж Міністэрству так называцца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Скарбонка талентаў не бяднее

***У старажытным Івянцы, што ў Валожынскім раёне, клапатліва берагуць традыцыі ганчарнага рамяства.***

У музеі Фелікса Дзяржынскага разгорнута багатая экспазіцыя керамічных вырабаў. Збанкі, гладышы, статуэткі, а таксама цацкі, выробленыя рукамі выхаванцаў народнай студыі выяўленчага мастацтва Івянецкай сярэдняй школы сведчаць пра невычэрпную крыніцу талентаў гэтага краю.

Дзесяткі наведвальнікаў з блізкага і далёкага замежжа, роднай Беларусі штомесяц прыязджаюць у музей. Многія хацелі б мець на памяць сувенір. Салон-кіёск дае такую магчымасць. На студзеньскім пасяджэнні райвыканкома выдадзена ліцэнзія Івянецкаму музею. Цяпер тут будуць рэалізоўвацца вырабы майстроў Івянеччыны з Саюза народнай творчасці. У продажы танныя ручнікі, керамічныя сувеніры, іншыя работы ўмельцаў.

Вырашаецца пытанне наконт перадачы пустуючага будынка пад Дом рамёстваў, які плануецца заснаваць пры музеі.

**Ірына ПАШКЕВІЧ.**

## Першы раз не навучыў

***Вілейчанін Ю. Таўстапятаў не так даўно адбыў пакаранне за спробу згвалтавання васьмігадовай дзяўчынкі, якая жыла па суседству з ім у адной шматпавярхоўцы.***

Аднак пакаранне на карысць не пайшло. Нядаўна народны суд ізноў разглядаў справу аб згвалтаванні. На лаве падсудных– усё той жа Таўстапятаў. Ахвярай яго на гэты раз стала малалетняя сваячка жонкі.

Суд прызначыў Таўстапятаву 3 гады пазбаўлення волі, якія прадугледжвае Крымінальны Кодэкс за такога роду злачынствы.

**Міхась ВІЛЕНСКІ.**

## Вестка для акцыянераў ПРІФа: яны могуць атрымаць дывідэнды

***Доўгі час не паступала ніякай інфармацыі аб лёсе І Рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду. І вось нарэшце, па словах дырэктара яго прадстаўніцтва ў Маладзечне Анатоля Кандратовіча, работа фонда ўзнаўляецца.***

Пасля доўгіх месяцаў нявызначанасці, напэўна, многія з акцыянераў захочуць забраць назад свае чэкі "Маёмасць". Такая магчымасць ім будзе прадастаўлена. Дастаткова толькі запоўніць заяву па ўстаноўленай форме.

Самыя ж стойкія, якія пажадаюць мець справы з ПРІФам і надалей, пасля перарэгістрацыі ўсіх членаў па выніках мінулага года атрымаюць дывідэнды: у сярэднім да адной тысячы рублёў за кожны ўкладзены чэк.

**Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.**

## Электрычнасць палім у доўг

***АШМЯНЫ.** 21 мільярд 190 мільёнаў рублёў вінаватыя даўжнікі мясцовым энергасеткам.*

Самыя буйныя неплацельшчыкі на сёння смаргонскія заводы -- аптычных прыбораў– 2,3 млрд. руб. і агрэгатны (трактарны)– 2,6 млрд. руб. Вінаватыя таксама і бюджэтнікі. Смаргонскае ВА ЖКГ не заплаціла 1,6 млрд. руб. Ашмянскае ж ВА ЖКГ мае доўг у 920 млн. рублёў. Ажно 6 мільярдаў завінаваціліся калгасы 4 раёнаў. Толькі калгас імя Чапаева Астравецкага раёна не можа заплаціць 881 мільён.

Усё было б нічога, каб уся энергія выраблялася дома. Дык такой у Беларусі толькі 20%. Большасць электраэнергіі абласное аб'яднанне "Гроднаэнерга" закупляе ў Літве і Расіі. Ашмянскія ж энергетыкі абслугоўваюць чатыры раёны: Ашмянскі, Астравецкі, Смаргонскі і Іўеўскі. Даўгі спажыўцоў ператвараюцца ў даўгі энергетыкаў-эксплуатацыйнікаў замежным пастаўшчыкам. Ланцужок неплацяжоў цягнецца ад несвоечасовай аплаты пакупнікамі прадпрыемствам і калгасам за прададзеную прадукцыю. А ВА ЖКГ, скажам, нерэгулярна і недастаткова дацыруюцца з бюджэтаў раёнаў.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ.**

## Разыходжанні ёсць. Расколу пакуль няма

***МАЛАДЗЕЧНА.** Чуткі аб нейкім расколе ў шэрагах гарадской арганізацыі ПКБ аказаліся перабольшанымі.*

Як сцвярджае адзін з яе актывістаў, цяпер камуністы не падпарадкоўваюцца слепа думкі, да прыкладу, першага сакратара. Таму, натуральна, існуюць розныя меркаванні розных людзей.

Аднак ёсць некаторыя разыходжанні з Саюзам афіцэраў, саветам ветэранаў.

Тэма патрабуе шырэйшага абмеркавання, таму ў адным з бліжэйшых нумароў "РГ" змяшчае інтэрв'ю з членам ПКБ В. Цюшкевічам з Маладзечна. На выбар кандыдатуры паўплывалі многія фактары, у тым ліку і тое, што Васіль Аляксеевіч гаспадарнік, а не партыйны функцыянер.

**Аддзел інфармацыі.**

Рынак працы

## Беспрацоўе дасягнула Івянца. І вывела яго ў лідэры.

***Лідэрам па беспрацоўю стаў на Валожыншчыне гарадскі пасёлак Івянец. У населеным пункце з пяццю тысячамі жыхароў больш за 150 беспрацоўных.***

Першымі ластаўкамі эканамічнага крызісу стала тут ліквідацыя хлебазавода, якая пазбавіла рабочых месцаў сорак чалавек, і скарачэнне работніц дывановага цэха Дома быту. А самым заўважальным у канцы мінулага года было закрыццё цэха вышыўкі: яно пакінула за бортам адразу 100 швачак, вышывальшчыц і вязальшчыц.

У падпарадкаванні Мінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў (у апошні час АТ МФМВ "Мастра") івянецкі цэх пражыў больш за 10 гадоў. Памяшканне арандавалі на заводзе мастацкай керамікі. Тут шылі і вышывалі абрусы, сурвэткі, падкоўдранікі, навалочкі, вязалі дзіцячыя касцюмчыкі, світэры, рэйтузы. Аднак апошнім часам некалі хадавая прадукцыя амаль перастала прадавацца. Работнікі цэха прадчувалі нядобрае, але надзею страцілі толькі тады, калі іх афіцыйна папярэдзілі аб скарачэнні. Літаральна адзінкам звольненых пасля закрыцця цэха пашчасціла займець у працоўнай кніжцы запіс аб новым месцы работы: па некалькі чалавек узялі да сябе племптушказавод, кандытарская фабрыка і МП "Крыніца". Некаторых ад малапрыемнага звання "беспрацоўны" выратавалі водпускі па догляду за дзецьмі. Астатнія 80 членаў жаночага калектыву цэха з 1 снежня зарэгістраваліся на раённай біржы працы. Дарэчы, з усіх кліентаў Валожынскага цэнтра занятасці 20 працэнтаў складаюць швачкі. А гэта значыць, што ў бліжэйшы час работніцам, звольненым з "Мастры", атрымаць работу практычна немагчыма.

Цэх быў закрыты ў сувязі з жорсткай эканамічнай неабходнасцю. Але калектыў не вінаваціць кіраўніцтва фабрыкі ні ў чым, і лічыць, што развіталіся яны па-добраму. Работніцам прадалі амаль усе швейныя машынкі па даволі сціплых цэнах– 100-150 тысяч рублёў, забяспечылі таннымі ніткамі, выплацілі належную фінансавую дапамогу. Не паскупілася адміністрацыя "Мастры" і на добрыя словы, шчыра падзякаваўшы за працу і паабяцаўшы ўспомніць пра цэх, калі эканамічная сітуацыя палепшыцца.

Наўрад ці можна быць упэўненым, што гэты выпадак– апошняе сацыяльнае ўзрушэнне ў жыцці працоўнага Івянца. Ужо зараз практычна спынена вытворчасць на знакамітым заводзе мастацкай керамікі, не без перабояў працуе кандытарская фабрыка... Ці захавае Івянец сваё сумнае лідэрства, адкажа будучае.

**Таццяна ШАБЛЫКА.**

## Скарачэнняў не будзе. Пакуль.

***Надышоўшы год прынёс з сабой пэўныя хваляванні ў эканамічным плане. Так, з павышэннем "мінімалкі" большасць людзей аўтаматычна звязвае рост цэнаў на тавары і паслугі, падзенне нашага "вушасціка" перад доларам, інфляцыйныя працэсы.***

А вось у Астравецкім дарожна-будаўнічым упраўленні №159 рабочых, акрамя вышэйпералічанага, непакоіць куды больш магчымае скарачэнне штатаў. Даводзілася чуць нават канкрэтныя лічбы: маўляў, 30-40 працэнтаў ад агульнай колькасці занятых на вытворчасці павінны будуць застацца без спраў і папоўняць тым самым рады беспрацоўных.

–Я вельмі здзіўлены такой інфармацыяй,– зазначыў начальнік ДРБУ-159 А. Жыляк.– Цяжка загадваць, але пакуль скарачэнняў у нас не будзе.

Навіна прыемная. Добра, калі ў кіраўніцтва гэтай арганізацыі галава баліць не будзе, каго скарачаць, а ў рабочых будзе работа. І добры настрой.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Перапрафіляваліся...

***Патэнцыяльныя пасажыры Валожынскага аўтапарка №14 вымушаны ўсё часцей хадзіць пешшу, але затое з поўнымі сумкамі свежых батонаў, хлеба. Ужо каторы месяц забяспечвае гэтай прадукцыяй пакупнікоў мясцовае прадпрыемства аўтамабілістаў.***

На вакзале ў райцэнтры адкрыты два магазіны. Яны ўражваюць вялікім асартыментам тавараў. Але пакупнікі аддаюць перавагу свежым хлебабулачным вырабам, якія па сваіх смакавых якасцях значна пераўзыходзяць прадукцыю мясцовага хлебазавода. Завозяць аўтатранспартнікі хлеб з Мінска, Маладзечна. "Хлебныя рэйсы" робяць вадзіцелі аўтапарка і ў вёску Доры– цэнтр аднайменнай гаспадаркі Валожыншчыны. У аўтапарку падумваюць пра расшырэнне сеткі фірменных гандлёвых пунктаў. Цяжкае фінансавае становішча, састарэлая матэрыяльна-тэхнічная база вымусілі аўтапарк пайсці на значнае скарачэнне маршрутаў пасажырскіх аўтобусаў. А таму і вырашылі тут зарабляць на хлеб ... хлебам.

**Ірына ПАШКЕВІЧ.**

## Павінен і сын дырэктарам стаць.

***ВІЛЕЙКА.** Эканамічнае становішча большасці прамысловых прадпрыемстваў горада застаецца складаным. Спробы ажывіць напаўзамерлыя прадпрыемствы робяцца, і меры прымаюцца самыя розныя– ад радыкальных да "касметычных".*

Да радыкальных перш за ўсё адношу змену формы ўласнасці. Так, акрамя заробку атрымліваюць дывідэнды акцыянеры ЗАТ "Вілейская мэблевая фабрыка", а таксама АТ "Завод буддэтамет". Па шляху прыватызацыі пайшоў гарадскі малочны завод.

А вось уласнікі дрэваапрацоўчага камбіната, Вілейскага рамонтнага завода поспехі калектываў напрамую звязваюць з асобамі іх кіраўнікоў. Напярэдадні наступлення года пацука на гэтых прадпрыемствах адбыліся істотныя змены. У лістападзе дырэктарам дрэваапрацоўчага камбіната стаў Аляксандр Карасцялёў, чалавек у горадзе вядомы. Рамзаводчане атрымалі навагодні падарунак у асобе новага дырэктара Уладзіміра Мацкевіча. Таксама не ката ў мяшку маюць– чвэрць стагоддзя назад дырэктарам вядомага тады ў рэспубліцы Вілейскага рамонтнага быў таксама Мацкевіч– бацька сённяшняга кіраўніка. Ды і сам Мацкевіч-малодшы пасля заканчэння інстытута дзесяць гадоў працаваў на прадпрыемстве на розных пасадах.

На дрэваапрацоўчым справы з месца зрушыліся. Прадпрыемства, асобныя ўчасткі якога не працавалі амаль год, стала выпускаць прадукцыю, людзі атрымалі, нарэшце, зарплату, амаль у дзесяць разоў зменшылася запазычанасць камбіната банкам і партнёрам.

На рамонтным сацыяльнае напружанне пакуль захоўваецца, аднак і там з кадравымі перастаноўкамі звязваюць немалыя надзеі.

**Міхась ВІЛЕНСКІ.**



## Ідзе падпіска

Падпіска на "РГ" не спынялася. Падпісацца можна ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

Падпісны кошт на месяц– 4000 руб., на квартал– 12 тыс. руб. Індэкс 63212.

# Пракурор заклапочаны тым, як Літва вырашае харчовую праграму

*У чаканні сустрэчы з пракурорам Ашмянскага раёна імкнуўся ўявіць сабе яго. Голас з прыадчыненага кабінета распякаў субяседніка,— мне чамусьці захацелася знікнуць. Якая размова можа атрымацца са знерваваным чалавекам? Але памыліўся. Уладзімір Іванавіч Аніська аказаўся чалавекам інтэлігентным і з выгляду, і па складу розуму, і па стану душы.*

**—Уладзімір Іванавіч, вырашэннем якіх асноўных задач займалася пракуратура летась?**

—Барацьба са злачыннасцю— адно з галоўных у дзейнасці пракуратуры.

**—Ашмяны— памежны горад. Дзе мяжа, там грошы. Дзе грошы, там парушэнне закону. Часцей за ўсё так і бывае. Колькасць злачынстваў хутка павялічваецца?**

—Ашмяншчына ўвайшла ў зусім маленькую групку раёнаў, дзе злачыннасць знізілася. Калі ў 1994 годзе зарэгістравана 310 злачынстваў, то за мінулы год— 299.

**—Якія справы самыя цяжкія?**

—Калі чалавек не па сваёй волі губляе жыццё— цяжка на душы, на стол кладуцца цяжкія па вазе і няпростыя па раскрывальнасці крымінальныя справы. Вось такія моманты самыя цяжкія ў жыцці.

**—І колькі было іх у апошні час?**

—У 94-м адбылося 5 забойстваў, а летась— адно. Сябры ехалі на машыне па нашай тэрыторыі. З-за грошай пасварыліся. Забойца сам з Асіповічаў, забіты— з-пад Мінска. Знаёмыя былі даўно,— здаецца, пуд солі разам з'елі. Быў яшчэ замах на жыццё: сын са стрэльбы страляў у бацьку, зачапіў.

Калі параўнаць паказчыкі апошніх двух гадоў па цяжкіх цялесных злачынствах— зніжэнне ў тры разы. Менш цяжкіх— зніжэнне ў пяць разоў. Лічу, гэта не выпадковыя лічбы. Мы праводзім прафілактыку— узбуджаем справы аб пабоях, інакш кажучы, сіняках, не толькі, калі маем заяву пацярпелага, але і па рашэнню пракурора. І даводзім справу да суда.

**—Дык у вас тут усё ціха і гладка.**

—Каб так было на самой справе, добра спаў бы ноччу і каляровыя сны бачыў. Цяжкія злачынствы павялічыліся на 10%, дзякуючы крадзяжам у буйных і асабліва буйных памерах. Звыш сарака мінімальных заработных плат лічыцца, як асабліва буйныя памеры. А колькі цяпер каштуе рухавік трактара, карова?

Смяецеся. У нас вельмі многа такіх крадзяжоў, у першую чаргу коней. Раён жа наш памежны. Аператыўнікі даходзяць да літоўскай мяжы, а далей нельга— іншая краіна. Трэба мець асабістыя кантакты з літоўскімі праваахоўнымі органамі, бо калі дзейнічаць адпаведна з дагаворам аб прававой дапамозе паміж Беларуссю і Літвой, столькі згубім часу, што ні адзін рэкс след не возьме. Таму па раскрыццю цяжкіх злачынстваў у нас самы нізкі паказчык па вобласці— 51,5%. І пакуль у розных інстанцыях мы ўздымаем гэту праблему, Літва за наш кошт удала вырашае сваю харчовую праграму па мясу.

***Васіль САВІЦКІ.***

# У Ашмянах фестываляць толькі сем'ямі

*Традыцыйным стаў на Ашмяншчыне фестываль сямейных калектываў, старт якому даў былы рэжысёр тэлеперадачы "Запрашаем на вячоркі" Генадзь Мезінцаў. У раёне для сваёй перадачы ён здымаў музычныя сем'і.*

Мясцовыя работнікі культуры задумаліся— чаму б дома не стварыць свае вячоркі, са сваімі выканаўцамі, гледачамі, падарункамі? Параіліся, абмеркавалі і стварылі. Бо талентаў на Ашмяншчыне, быццам пакупнікоў на рынку ў нядзелю. Толькі музычных сем'яў— 20. Бацькі, іх дзеці граюць, спяваюць, а калі настрой не дрэнны, то і станцуюць. Вось, напрыклад, сям'я Сокалавых. Гаспадар— музыкант не па адукацыі, а па захапленню, іграе на некалькіх інструментах. А калі ліст з дрэва да вуснаў паднясе, як тут гавораць— "ногі ў пляс і слёзы з глаз". Ды наогул любы прадмет у яго руках запяе. Сын скончыў музычную школу, вучылішча. Музыка "ад Бога".

У яго руках баян, у сябра— клавішы— хоць адразу на вялікую сцэну. Жаночая палавіна крыху ўступае мужчынам, але лічыцца больш перспектыўнай. Сокалавы "хварэюць" музыкай, якая гучыць у іх доме з ранку да вечара.

Фестываль— гэта не толькі выступленне музычных сем'яў, але і гульні для гледачоў, інтэрв'ю з удзельнікамі, поўны кантакт з залай. І ў канцы свята— узнагароды пераможцам, самым маладым, самым вялікім сем'ям. І, безумоўна, прысуджваецца прыз глядацкіх сімпатый. Калі-небудзь завітайце на ашмянскія вячоркі.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Фестываль вяртаецца ў Маладзечна.

***Чарговы фестываль беларускай песні пройдзе ўсё ж такі ў Маладзечне.***

Стала магчымым гэта дзякуючы некалькім спрыяльным абставінам. Сёння выдзелім адно: практычна ўсе нашы вядомыя спевакі, кампазітары, паэты-песеннікі выказаліся менавіта за Маладзечна. А першую скрыпку адыграў тут, бясспрэчна, Міхась Фінберг.

Відаць, не толькі для маладзечанцаў фестываль прыйшоўся даспадобы. Спадабалася тут і артыстам, якіх заўсёды прыязна сустракалі гледачы, мясцовая прэса.

***Аддзел інфармацыі.***

# Баба Ганна жыве доўга, чаго і нам жадае

***Маці Ганны Фёдараўны Кнігі, доўгажыхаркі з Маладзечна, "затрымалася" на гэтым свеце аж да 101 года. А яе дачка ў свае сто адзначыла наваселле і ўжо дзесяць год пражыла ў новай трохпакаёвай кватэры з сям'ёй сваёй малодшай дачкі, таксама Ганны. Хочаце верце, хочаце— не, але пашпарт Ганны Фёдараўны дакладна пацвярджае яе ўзрост, дзе ў графе год нараджэння чорным па беламу вызначана: 1885...***

У апошнія гады баба Ганна стала недачуваць, але на нагах стаіць цвёрда, голас мае зычны, а памяць ясную. Імёны сваіх пяці ўнукаў і васьмі праўнукаў ні разу не пераблытала.

А вось у "зайчыках" не разбіраецца. Таму ў магазін блізкія яе не пускаюць. Можа, і ў гэтым адзін з сакрэтаў яе доўгажыхарства: не ўздымаюцца ў бабулі Ганны нервы ад чарговага павышэння цэн.

Тры вайны перажыла гэта жанчына. Да іх у сваіх успамінах адносіць і калектывізацыю, пасля якой у іх моцнай гаспадарцы не засталося нават бульбінкі. Дзесяць дзяцей нарадзіла, шасцёра памерлі ад хвароб ды нястачы. У Другую Сусветную фашысты расстралялі ў суседняй вёсцы яе сына-чырвонаармейца Пятра. Запрэгла яна каня, паехала, знайшла мёртвага сына ў кучы скіданых цел, пахавала па-хрысціянску...

Доўга можна гартаць кнігу жыцця пасланкі да нас з мінулага веку з такім рэдкім і такім сімвалічным прозвішчам. Цудоўна, што не толькі ў перадгор'ях Гімалаяў, але і ў нашым родным Маладзечне людзі жывуць так доўга. Вы пакідаеце нам надзею, паважаная Ганна Фёдараўна!

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

# "Не такі страшны чорт..."

***"Не трэба драматызаваць сітуацыю",— сказаў сябар Сойму БНФ Вінцук Вячорка на сустрэчы з актывам Маладзечанскай арганізацыі БНФ.***

***Акрэслім у назыўным парадку асноўныя яе моманты.***

Сітуацыя на Беларусі. "Яна не такая благая, як магла б быць, бо выбары ў Вярхоўны Савет адбыліся і гэтыя галіны ўлады ўраўнаважваюць адна адну."

"Новы спікер ВС— адметны чалавек, і ён будзе адстойваць ідэі парламентарызму".

"Пройгрыш БНФ на выбарах— гэта адносны пройгрыш, бо Фронт з часу прэзідэнцкіх выбараў павялічыў колькасць свайго электарату недзе на 300 тысяч чалавек і сёння яго прыхільнікамі з'яўляюцца каля 1,4 мільёна чалавек".

"Дарэмна дэмакратычныя сілы "здалі" у ВС камісію па адукацыі і культуры"... Але...

"Беларускі менталітэт не ўспрымае крайнасці існуючага рэжыму."

Адносіны з Расіяй і Захадам. "Дактрына Ельцына— узор аднаўлення імперскай палітыкі з боку Расіі".

"Прыняцце Расіі ў Савет Еўропы— вялікая памылка Захаду".

"Аднаўляецца геапалітычны, эканамічны і іншы ўплыў Расіі на абшарах СНД і Усходняй Еўропы".

"Нафтагазавае пагадненне— вялікая страта для Беларусі".

"Уступленне Беларусі ў Савет Еўропы— магчымасць уплыву заходняй дэмакратыі на існуючы рэжым і падставы для яго рэфармавання. Абавязковымі ўмовамі для гэтага з'яўляюцца незалежны друк і аб'ектыўнае расследаванне збівання паветранага шара".

"Расійскія "дэмакраты" не з'яўляюцца прыхільнікамі незалежнасці Беларусі. Дзеля ўтрымання цяперашняга рэжыму ў Расіі яны гатовы пайсці на далучэнне Беларусі".

БНФ, іншыя партыі. "Ёсць свае плюсы і мінусы ў тым, што БНФ не прадстаўлены ў Вярхоўным Савеце".

"Вялікая памылка дэмакратаў, што яны ўзялі на сябе эканамічныя пытанні. За ўсе правалы і пралікі спытаюць з іх."

"Яшчэ адна вялікая памылка лібералаў заключаецца ў тым, што яны заклікаюць укладваць грошы ў эканоміку Беларусі, бо гэта не ідзе на карысць нашай эканоміцы. Пры кантрольным пакеце акцый расійскіх нафтагазавых фірм у нашых прадпрыемствах— гэта ўкладанні ў эканоміку Расіі.

"Выбары праводзіць лепш восенню, бо цяпер не паспеем да пасяўной кампаніі, а да восені можа змяніцца настрой выбаршчыкаў".

"Славянасабораўскія ідэі на Беларусі не знайшлі падтрымкі: ні адзін з прадстаўнікоў гэтых сіл не трапіў у парламент".

"Існуюць кантакты з Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, з БСДГ, але ёсць небяспека, што ўваходжанне Грамады ў блок з іншымі палітычнымі сіламі нанясе шкоду яе незалежніцкім пазіцыям".

Прэса і іншыя СМІ. "Трэба падтрымаць беларускамоўныя выданні, умацаваць альтэрнатыўную сістэму іх распаўсюджвання. Расце папулярнасць "Рэгіянальнай газеты" ў чытачоў. Гэта новае беларускамоўнае і самаакупнае выданне павінна стаць прыкладам для іншых. І пажадана, каб сетка такіх рэгіянальных і субрэгіянальных газет і бюлетэняў пакрыла ўсю тэрыторыю Беларусі".

"Асвятленне дзейнасці Вярхоўнага Савета павінна быць больш поўным".

***Запісаў Андрэй БОЖКА.***

## З залы суда

# "Калекцыянеры"

***...Аб'яднацца двум гэтым юнакам было няцяжка— выраслі ў адным невялікім гарадку, хадзілі аднымі сцёжкамі-дарожкамі ў кіно ды на дыскатэкі. Агульную мову таксама знайшлі хутка.***

Ды і біяграфіі ў абодвух падобныя. Прагі да ведаў не выказвалі. І ў школе ўздыхнулі з палёгкай, калі адзін і другі скончылі з горам напалам дзевяцігадовы курс навучання. Потым нідзе не працавалі і больш не вучыліся. Праўда, Аляксей Адстаўноў, 1977 года нараджэння, на два гады старэйшы за Вадзіма Давідовіча. Але гэта ніякага значэння не мела. Апошні—"кадр" у Валожыне добра вядомы, некалькі гадоў стаяў на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх. Так сказаць, у пэўных падлеткавых колах меў пэўны аўтарытэт.

Гэта перадгісторыя. Сама гісторыя пачалася майскім днём 1995 года. Злучыў хлопцаў адзін злосны намер. Селі на матацыкл, і дарога прывяла іх у Вішнева. У дом З. Садоўскай завіталі як госці. Выдалі сябе за супрацоўнікаў райваенкамата і папрасілі паглядзець узнагароды яе памерлага мужа, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Потым, быццам бы для зверкі, завалодалі трыма польскімі медалямі "За Варшаву. 1939-1945 г. г.", "Заслужаным на полі бою. 1944" і "Перамога і свабода. 9.5. 45", а таксама ордэнам Айчыннай вайны І ступені.

На гэтым "калекцыянеры" не супакоіліся. У той жа дзень, толькі пад вечар завіталі ў дом жыхара вёскі Няровы Івана Сямёнавіча Бразоўскага. Сцэнарый паўтарыўся, тым больш, што папярэдне быў выдатна адрэпетыраваны.

Вось што ў час следства паказаў пацярпелы: "Зайшлі два хлопцы ва ўзросце да 20-ці гадоў. Прадставіліся работнікамі ваенкамата, папрасілі паказаць, якія ёсць баявыя ўзнагароды. Адзін з іх, што быў ніжэйшы ростам, сам зняў з пінжака, які вісеў на сценцы, ордэн Айчыннай вайны ІІ ступені. Сказалі, што забіраюць яго для зверкі, потым вернуць..."

Амаль праз тыдзень супраць В. Давідовіча і А. Адстаўнога была ўзбуджана крымінальная справа. Смешна сказаць, але ў час следства яны спасылаліся на тое, што баявыя ўзнагароды збіралі з мэтай іх далейшага калекцыяніравання, абмену ці продажу. Дарэчы, адзін з ордэнаў паспелі-такі рэалізаваць "незнаёмаму мужчыну ў Мінску" за смешную цану... 20 тысяч рублёў.

На судзе і В. Давідовіч, і А. Адстаўноў віну сваю прызналі цалкам. На гэтым сумная гісторыя завяршылася, злачынцы панеслі пакаранне і маюць час для роздуму. В. Давідовіч— 3 гады пазбаўлення волі ў выхаваўча-працоўнай калоніі, А. Адстаўноў— такі ж тэрмін умоўна.

Хацелася б выказаць некалькі сваіх думак на гэты конт. Старыя— даверлівыя, што дзеці. Як можна было паверыць, што гэтыя два, прама скажам, сысункі— супрацоўнікі ваенкамата. Тым больш, што апошнія ходзяць на службу заўсёды ў вайсковай форме.

Для ветэранаў, іх родных, маюць тыя ордэны маральную каштоўнасць. На жаль, для іх "унукаў"— толькі матэрыяльную.

***Наталля ШТЭЙНЕР.***

## Лёсы людскія

# "Самае галоўнае -- у мяне ёсць сябры",-- лічыць Ганна Філіна, тройчы майстар спорту СССР, былы член зборнай Савецкага Саюза па лыжных гонках

***—Я шчаслівы чалавек— у мяне дзве радзімы: горад Бялёў Тульскай вобласці, дзе я нарадзілася, і Беларусь, дзе прайшла значная частка майго жыцця. Сяброўства не ведае мяжы— мяне памятаюць і чакаюць там і паважаюць тут. У нашай сям'і было шасцёра дзяцей. Бацька загінуў на фронце. Маці пасля вайны ўжо, збіраючы на полі бульбу, наступіла на міну, трапіла надоўга у бальніцу. А нас усіх размеркавалі па дзіцячых дамах. Тады мне споўнілася дзевяць месяцаў. І вось толькі праз дваццаць гадоў я вярнулася дамоў, знаходзілася ў 36 кіламетрах ад Бялёва, а маці, небарака, збірала дзяцей па ўсёй краіне.***

Як учора, бачу дырэктара дзіцячага дома Іну Дзмітрыеўну, былую партызанку, Героя Савецкага Саюза. Стрыглася яна пад "бацьку Махно", у роце заўсёды тырчала папяроса. Мне пры сустрэчы заўсёды казала: "Хвілуш, табе абавязкова трэба ісці ў хвізкультурную вну". А я ўжо тады, быццам малпа, лазіла па дрэвах— учэпістая была. Ужо ў бацькоўскім доме хадзіла ў вячэрнюю школу і працавала ў арцелі "Светлы прамень", які паміж сабою называлі "Марная праца". Закручвалі ў паперу цукеркі. Потым змяніла месца працы— на швейнай фабрыцы прышывала гузікі. У шэсцьдзесят другім паступіла ў Смаленскі фізкультурны інстытут. На экзаменах падцягнулася 21 раз, адціснулася 68. У час вучобы абараніла навуковую работу, за што атрымала вялікія на той час грошы— 60 рублёў.

Трапіла ў Беларусь, бо адсюль мой муж. Ён па спецыяльнасці архітэктар. Калі Ташкент страсянула, паехаў будаваць, там і застаўся. Мне тады казаў: "Не хачу быць хвастом у слана. Лепш галавой у мухі". А я спачатку трэніравала, потым сама пачала выступаць. Аб'ездзіла Урал, Прыбалтыку, цэнтральную частку Расіі. У 1972 годзе ў Лагойску праходзіла першынство СССР па біятлону. Каманда беларусаў (і я была сярод чацвярых шчаслівычыкаў) заняла першае каманднае месца.

Я ўваходзіла ў зборную краіны, выступала ў адной камандзе разам з Раісай Смятанінай. Спорткамітэт адзначыў мае поспехі кватэрай у Маладзечне. А было гэта так.

Аднойчы я праязджала праз Аляхновічы, Баяры— спадабаліся мне тамтэйшыя горы, яны і вырашылі мой далейшы лёс. Вынік спартыўнай кар'еры— тройчы майстар спорту: па лыжных гонках, біятлону, ваеннапрыкладному мнагаборству. Вынік трэнерскай дзейнасці— толькі з аляхновіцкай школы 9 чалавек скончылі інстытут фізкультуры. І наогул у мяне ўсё добра. Бо самае галоўнае— у мяне ёсць сябры. Без іх немагчыма ўявіць сённяшняе жыццё. Без іх не толькі як без рук. А як і без душы і сэрца.

***Васіль САВІЦКІ***

